Алесь Камароўскі

# Зямля маіх надзей

Вершы і паэмы

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

ББК 84 Бел7
К 18

*Рэцэнзент*
*Міхась Кенька*

Поэзия Алеся Комаровского задушевная, искренняя, а вместе с тем и наступательная. Мотивами борьбы за лучшее мирное будущее всего человечества насыщены публицистические поэмы «Взрыв», «Огонь жизни», «Затмение». Лиризм и гражданский пафос здесь органически соединяются в единое целое.

К $\frac{4702120200-060}{М 302(03)-88}$ 49—88
ISBN 5-340-00049-4



## ПОКЛІЧ

У дваццаць пяць палкі у бой вадзілі,
Жыццём плацілі за святыя рубяжы...
А мы, прыгрэўшыся пад крыллем
у Радзімы,
Ад спраў парою спуджана бяжым.

Нам часу маятнік гайдаецца калыскай,
І — каб не лез ніхто, не назаляў...
П'ём малако спагады мацярынскай
І загараем на бацькоўскіх мазалях.

А за акном жыццё у буйстве поўным
Выносіць колас важкай збажыны...
Ды у надрыве, у парыве векапомным
У ветэранаў боль жыве вайны.

У іх грудзях, прастрэленых, задышных,
Яшчэ баёў барвовіцца зара,

Ды рукі робяць спраўна і увішна,
Хоць адпачыць за ўнукамі пара.

А над Зямлёй — як віхар з віхрам стрэўся
І выдыхнуў жывому: «Задушу!» —
І свет у нейкім апантаным стрэсе,
Што аж бярэ трывога за душу.

Каб вокам мёртвым у пякельным дыме
Наш дыск Зямлі навечна не запаў,
Вайну спыніць рукамі маладымі
Павінен цвёрда малады запал.

Мінаюць дні — вяселлі і радзіны...
А недзе даль асмужана дрыжыць...
І нас вялікім поклічам Радзіма
Гукае быць на першым рубяжы.

# ПРЫШЧЭПАК

З такой асцярогай, каб стык не парушыць,
Бінтуючы зрэз кажурынай кары,
Прышчэпліваў бацька атожылак грушы,
Каб бэры званамі званілі ўгары.

Рвануўся адродак у кіпені сокаў
І зліўся, як родны, з магутным ствалом...
А квецень свяцілася мёдам высока —
Пладамі праз час частаваў за сталом.

Атожылак — я, што надзея трымае:
Ад вёскі нож часу адрэзаў мяне.
Хоць болей люляе калыска трамвая,
Ды жаль па вяскоўі ніяк не міне.

Мне млосна, задышна... І сніцца вясною
Бядак-баравік, учарнелы, як цень,
Які разлучылі з лясною сасною,
Які пасадзілі на простай градзе.

Я — дрэва з бясплоднымі думкамі тымі,
Якія цяпер ці кляні, ці крані,
Ды крона ліпіць паміж гмахаў у дыме
І чэзнуць у вёсцы яго карані.

## АЗБУКА ЖЫЦЦЯ

Не навучылася бабка чытаць і да смерці,
Літар кніжны засеў быў не ўсім адкрыццём:
Адабралі гады малалетнія дзеці,
У спрадвечнай рабоце мільгнула жыццё.
Ды яе непаседная, рупная доля
Па рунелых усходах, збуялых радках
Завучыла у памяці азбуку поля,
Што гадамі крывавіла боль на руках.
Зеляніла вясна на выжарынах накід —
Па затоенай мове абуджаных дрэў
Тайны лесу чытала, як дзіўныя знакі,
Што былі за любую чытанку мудрэй.
У спахоплівых днях, у вярэдлівай працы
Быў характар яе не сляпы, не глухі:
Сонца музыкай дня зачыналася праца —
Прыгажосць у вачах расцілала лугі.
Кіравала сахой, выпіналася з ломам —
Не было — не навучылася грошы лічыць...
Ды спагадай сваёй, абнадзеяным словам
Слёзы нечай бяды памагала лячыць.
Перад смерцю дачасна сынам наказала
На магіле накрэсліць не словы замоў,
А радкі, што прырода ў душы выкрасала,
Два радкі, што жыццё напісала само:
«Паклон зямлі, што я жыла!
Я дзецям дзень перадала».

## МАЛІТВА

На пляжы — на пякельным донцы —
Чарнеюць спіны, жываты...
А неба смаліць у тры сонцы,
Адзін ратунак — ля вады.

І гэта пойма залатая
Купае: спіну не спалі...
Мая ж трывога залятае
Туды, дадому, на палі...

Зноў маці жыта азірае,
Ідзе самотная уздоўж:
«Загіне, ссохне ўсё зараней,
О, каб хоць трохі лінуў дождж!»

І хмары цяжкія, як мары,
Сюды над поплавам вядзе...
А зелень млее у кашмары,
Адзін ратунак — у вадзе.

Дажджы, прашу вас, не — малюся,
Каб кожнай тканцы кроплі піць,
Палі засмяглай Беларусі
Жыццём гаючым акрапіць!

## ЖЫТА

Скупа сеяла зярняты па зямлі,
Палівала горкімі слязьмі,
Верыла: узыдуць на дажджах,
Рынуцца у рост, як на драждждах.
Уваходзілі у клопат і у сны,
Падрасталі на вачах яе сыны...
Коласам хілілася пры іх —
Радасць разгаралася ў крыві.

Красавала,
                    налівалася,
                                        расло...
Срэбранае месяца вясло
Падала, як мроя, ў каласы,
Ў мора палавеючай красы.
А сыны ўзмужнелі, узраслі...
І няўмольнай ростані разліў
Раскідаў па свеце іх чаўны
Ў гарады па клопаты, чыны...

Не адну адмервала вярсту,
Пакідала жыта на прасту,
Мазалі пёк невыносны сверб,
Захлынаўся ад пякоты серп...
Жораў клін выводзіў за раку —
Каля жорнаў сыпала муку,
І ад маці, ад жытнёвых лаў
Зазімак сынам акраец слаў.

Не счакаў гарачых рук загон:
Напрадвесні злегла ля яго...
Памяццю суседкам даражыць:
«Шчэ б засеяць і яшчэ пажыць...»
З Нёманам сплылі трывог снягі...
Быццам памяць — вечныя даўгі —
На зямлі адроджанай вясны
Жыта сеялі яе сыны.

## ХАТА З ЗАБІТЫМІ ВОКНАМІ

Зіма цяпло хіснула з рукавіц —
Ад наледзі сцяжыны акарэлі...
Уціснуўшы пастромкі бліскавіц,
Вясёлку над брывамі аканіц
Вясна кульнула ліха, як арэлі.

Не так вярэдзіў вывадак завей,
Як сына холад забыцця залюты...
Хусцінай бабкі домік асавеў...
А горад, як касцёр, к сабе заве,
Па крылах даху чыркаюць салюты.

Зварот надзей у жорнах век змалоў:
Не зырыць ранак полымя на шыбе...
Слязой у дождж, а спёкаю смалой
Жалліва сочыць бёрнаў абалонь,
Але няўмольна коціць часу шыбень.

У снезе цвету комін азалеў:
Агню прысніў, напэўна, адраджэнне...
Вядро збірае захлісты залеў...
І поля клін нашчадкам назалеў,
Ці зарастае лебядою адрачэння...

І толькі лета збудзіць рып масніц —
Ад горада, як з выраю,— унукі...
У зорнай мроі ноч пryляжа ніц —
Спакоіна печ у цёплай дрэме спіць,
Па сценах споўдаюцца водбліскамі думкі.

А восень павуцін пратво зачне —
Гульня да лета забаўку забудзе...
У сене яблыку вылежвацца сачней...
Вятры, у коміне галосячы зычней,
Цяпло надзей апошніх золка пудзяць.

На вокнах дошак хмурацца крыжы,
Як знакі неразгаданага гора...
І шыба спуджана у зарыве дрыжыць:
Здаецца ёй, што сцен сухіх кражы
Глыне усё ж кастром няўтольным горад.



Дакранулася жартам рукою —
І забілася сэрца хутчэй...
І паўстала ў бяздонні вачэй:
Ты дзяўчынкай бяжыш за ракою.

Я аклікнуць хацеў... У імкненні
Твой лятунак спалохаць не змог...
Там, дзе ростань жыццёвых дарог,
Ты застыла у нейкім імгненні.

Твае вочы мне сняцца з гадамі,
Павалокай абводзяць душу...
Успамін той другімі тушу,
Успамін, што з табой не згадалі...

Дакранулася жартам рукою —
І забілася сэрца хутчэй...
І паўстала выразней, ярчэй
Незабыўнай дзяўчынкай такою.



Калі сум уздымецца ў душы,
Калі жаль агорне — хоць ты плач,
Мой адчай адчуй, пачуй, убач!
І пісьмо адразу напішы.

Напішы у тое, што было,
Што з табой у ростані дзяліў...
І мядовы памяці пылок
Я збяру з тых кветак, што цвілі.

Напішы у тыя вечары,
Калі ў свеце цэлым — я і ты!
Калі зор хісталіся шары,
Елка неба калыхала стынь...

Напішы прызнаннем дзіўных слоў,
І паверу я мроі сноў:
Хоць не гоіць ростань даўні злом,
Ды, напэўна, верне цябе зноў.

Напішы... За выстылым пяром
Я убачу ўсё, што не міне...
Хай пісьмо — між намі твой паром —
Прывяэе надзею да мяне.

Светлы ранак зоймецца ў душы,
Знікнуць сум, і жаль, і горкі плач,
Толькі ты адчуй, пачуй, убач
І пісьмо адразу напішы...

## ЛЮБАЙ

Было ўсё проста і звычайна...
У ціхіх колерах жыцця
Душа пакутліва, адчайна
Шукала выйсце з небыцця.

Душа прасілася: пачуць бы
Усе мелодыі зямлі,
Каб развінуліся пачуцці,
Самоту даўнюю змялі...

Душа імкнулася бунтоўна
У свет, што цуды выкрасаў...
Прыснулі колеры і тоны,
Адценні, фарбы і краса...

А ты прыйшла з чароўнай казкі,
Каб боль у сэрцы патушыць,
А ты прыйшла з святла і ласкі,
Як азарэнне для душы.

Усё, што бачылася мройна,
Як праз залеву, як праз лес,
Паўстала выяснена, стройна
І набыло вялікі сэнс.

Як адварожаныя, краскі
Зайгралі кветам для душы.
Сышла націна хмурай раскі,
Глыбінь асветлілася шыр.

О, ненаглядная багіня!
Вачэй маіх два абразы!
Я знаю, што каханне гіне,
Калі бывае два разы.

Адной жыві вялікай верай,
Калі ў цябе адно жыццё,
Каб правяло праз час, праз вернасць
Адно скразное пачуццё.

Калі зліваецца дыханне
У горы-радасці ў адно —
Не паўтараецца каханне,
Як не паўторыш свет наноў.

І не шукай ты паўтарэння,
Сваіх пачуццяў не губі.
Як першароднае тварэнне,
Адну, адзіную любі.

Кладуцца фарбы ўзорам дзіўным,
Пераліваюцца, гараць...
Жыву каханнем тым адзіным,
Каб у адной зноў паўтараць.

О божа выдуманы! Хай мне
Наканаваны сцíслы век,
Ды веру я: калі каханне
Жыве —
жыве і чалавек.

# ПРАДЧУВАННЕ

Запальваў гром маланак znічкі,
Высвечваў сполахі на міг...—
Паўзлі, як змеі, электрычкі
Ад гарадоў — муроў нямых.

І так насоўвалася хмара,
Як зубы тысяч вострых піл,
На тое, што кусцела марна,
На тое, што глытала пыл.

Нутро сціскала прыцяжэнне...
А хмары блізіўся разлом...
І прадчуванне асвяжэння
У сэрцы стоеным расло.

Прыцэл наводзілі грымоты —
Як стаўкі вызлачаных біт,
Ляцелі розныя турботы,
Якія ставіў важка быт.

Здаецца, чула пакаленне,
Як пасталення бліжаў шум...
І сэрцу перад абнаўленнем
Патрэбна скокнуць праз мяжу.

...Наноў народжаны мужчына
Задумы лепшыя крыліў...
Упала першая дажджына,
Як кропля цяжкая крыві.



Разбіваю камень-скруху
І крышу валун трывогі,
Засыпаю дзён правалы
Дробных клопатаў шчабніцай,
Каб у высвечаным руху
Лёг пачатак той дарогі,
Што праз крокі і прывалы
Нашай будучыні сніцца.

Шлях цярністы, ледзь пачаты,
Азіраю чэпка мрояй...
Ахапляю кожным нервам
Тое, што крывёй даецца...
Зоркі — вабныя дзяўчаты —
Адгараюць смутна роем,
Толькі вечная Венера
Пажыццёва застаецца.

Прада мною аднаверцы
Пракладаюць сцежкі міру
І шукаюць тыя словы,
Што навек звядуць бяду...
Дагарыць аднойчы сэрца,
І тады з людскога віру
У дарогу для асновы
Камнем простым упаду.

# ВАЛОШКІ

Некаму вочы слязамі выпаліць,
Некаму голаў заўчасна выбеліць...
Справяць вяселлі, справяць радзіны
Бежанцы там, за мяжою Радзімы.

Помняцца вобразы бацькавай спадчыны,
Шэпчуцца словы ласкавыя матчыны...
З жальбамі ў пісьмах — словы пазыкі:
«Палажыце валошак наверх у пасылкі...»

З выраю — птушак касяк у нябёсах...
Спеюць маланкі ў наклёпаных косах...
Вышыла лета узгоркі ў суніцы...
Трызніцца жыту мора у дымцы...

Каб успамін на хвіліну вярнуўся
З крынічнай і зорнай маёй Беларусі,
Нарвіце валошак ў аброшаным жыце
І у пасылкі наверх палажыце.

## КАЛОСІЦЦА ЖЫТА...

*Якубу Коласу*

Сутарга цені калыша у вокнах...
Мроіцца поле... Задышна... Не спіцца...
Месяца зырыцца слёзнае вока...
«Лапіку руні пара каласіцца...»

Тут, у сталіцы, пад веямі соснаў
Звычкай сялянскаю, крэўнай, нязжытай,
Болем душы, закалыхваннем крозаў
Песціў гадамі пясняр сваё жыта...

К гэтаму дому нясло навальніцы,
Неба не раз перунамі жагнала...
Сосны маглі ад віхур паваліцца,
Жыта ж трывала і сполахі гнала.

Раніца зноў распагоджвала думкі,
Сонца над садам выкочвала кола...
Жыта буяла, гайдала лятункі...
Мо ад яго і абралася — Колас?

Кульба у поўдзень прыстане пры лаўцы,
Вочы агледзяць хмурыну ў нябёсах...—
«Як там, зірнуць бы, жывуць мікалаўцы,
Жыта ці родзіць на іх сіняпёсах?

Век выпіналіся, рвалі цярпенне,
І дачакаліся светлае долі:

Зрынула воля з іх душаў каменне,
Ды мнагавата яго шчэ на полі...»

Часта прыходжу сюды... Пры музеі
Кветкамі гэта паляна абжыта...
Вочы замружу...—
                                І зерне ён сее...
Струніцца, трызніць, калосіцца жыта!

## АБЛОКІ ДЗЯЦІНСТВА

Любіў аблокаў свет далёкі,
Пагляд адводзіў ад зямлі —
Дзяцінства белыя аблокі
У сіняве вачэй плылі.

І мне здавалася, што ў высях
Раджаўся казкі дзіўны свет:
Туман аблок чароўна віўся
І клікаў за сабой услед.

Уяўна мроілі нябёсы
І пераносілі ў вякі...
Зноў абуджаліся дзівосы,
І па рацэ плылі вянкі...

Сярод аблок — людзей і птушак —
Я саграваў сваю душу...
Мае лятункі доўга гушкаў
Нябёсаў сіні парашут.

...Не ўсё збылося, што намарыў...
Ды свет дзяцінства не зачах,
Хоць часам градам цяжкім хмары
Сякуць балюча па вачах.

Ды ўсё ж заплюшчу мройна вейкі:
І, сонцам поўнячы блакіт,
Як спеў надзей, як прывід нейкі,
Плывуць аблокі у вякі.



У дачкі ёсць мама, тата,
У дачкі ёсць дзве бабулі,
Ды дачка не вінавата:
Двух дзядуль сустрэлі кулі.

Ласкай лёс дачкі сагрэты...
Што ж бабуль так непакоіць?
Аглядаюць два партрэты
Светлай памяці пакоі...

Дзве бабулі рупна вяжуць
Для унучкі дзве наміткі,
І плывуць з вясковай пражы
Успамінаў даўніх ніткі...

Дзед адзін іграў на скрыпцы,
Рэзаў дудкі, ладзіў гуслі...—
І з музычнай той крыніцы
Выплывалі казак гусі...

Дзед другі — мастак не меншы —
Клеіў мэблю не к зарплаце...
Вунь у шафе той, даўнейшай,
У радок — дачушкі плацці...

Там, над велічнай Расіяй,
У метале — іх абліччы...
На падушцы неба сіняй
Медалі іх месяц лічыць...

Будзь, дачка, паглядам светлым,
Будзь, дачка, і іх працягам,
Над схмурнелым, громным светам
Ты крылі чырвоным сцягам.

Хай дабро цябе атуліць!
Помні: там, на п'едэстале,
За табою два дзядулі
Прыўсталі у метале.





## ВЫБУХ

*Паэма*

Недалёка ад Бешанковіч
Віцебскай вобласці
ў час Вялікай Айчыннай вайны
нашы ваеннапалонныя
пусцілі па Заходняй Дзвіне
плыт з нямецкімі снарадамі
і ўзарвалі мост

Над поплавам
попелам хмурыла...
Стогн
прыузняцца сіліўся...
Дачасна
пятрэла му́рава...
Выракам
дні насіліся...

* * *

Змарнелых пяць —
Сівізны абпаленай німбы...
Ім бы
Самалётамі неба пяць,
Пасці
За спадчыны пядзь
Ля роднай сялібы...
Слязіцца на травах падзь...

* * *

Чэрствай скарынцы жадзён,
Хрыплы ад даўкіх ангін,
Сын праз пажарышчы дзён
Бацьку шукаў у агні.

* * *

«Абараніць!» —
Адсталі
Ад цяжкай брані,
Ад сталі:
Прарывы
крывавага бою
Парывам закрылі,
Сабою.

Сэрца
б’ецца
натужна...
Рвецца
снарад
кантужна...
На болю
сляпым
рубяжы
Па полі
няволя
бяжыць...
Губы шапнулі:
«За Сталі...»
Набеглі,
налеглі, засталі...

* * *

Першы
Быў некалі
Здатны на вершы...
Цяпер жа
Нешта ціха шаптаў,
Быццам у сэрца пытаў...
Ды голаў не вешаў.

* * *

«Сыночак!
Крывінка радзімая,
Уцеха мая адзіная...
Ночак усіх не выспала,
Каб шчасце тваё выспела...
Вярніся...»
Не есца,
Не п’ецца...
Вочап ад ветру рыпае —
Маці не знойдзе месца,
Млосна аб шыбу б’ецца
Спуджанай рыбаю...

* * *

Другі —
Пажылы,
Просты,
Ледзьве жывы...
Постаць —
Згарбеласць дугі...
Здаўна
Калісьці
Дзень ада дня
Ліў для студняў кругі.

* * *

Ла-гер —
Гер-маніі герб крывавы.
Манія велічы, славы
Ботам таптала краіны,
Потым кідала руіны,
Гонячы люду вагоны
У смерці загоны...
Ла-гер —
Крывавай Германіі герб.

* * *

Трэці...
Трэба было яго трэсці...
Сініх вачэй павалока —
Недзе далёка-далёка...
Згарэлі у полымі дзеці,
Згарэлі бацькі старыя...
Трэці
Вочы знянацку адкрые —
Скачуць шалёныя чэрці.

* * *

Дрот
    калючы
Над мурам сцен.
Кулямёта рот

Прастор з'ядае...
Травінка —
                    і тая
Расце балюча.

* * *

Чацвёрты
Быў нязломны і цвёрды.
У вачах
Не зачах
След
Вогненных зім і лет.
Па начах,
Быццам іскру жыцця
Выкрасаў,
Даставаў
                    з-пад крыса,
Як дзіця,
Як вялікую сілу ад бед,
Партыйны білет.

* * *

«Тата! Тата...
Дзе ты? Дзе ты?
Спалена хата,
Мы не адзеты...
Тата... Тата!» —
Плача дачушка,

Горка гукае...
Бяскрылая птушка
Гняздо шукае...

* * *

Пяты —
Цыбаты, напяты,
Ад канаплюшак —
Рабы,—
Быў дзецюком хвацкім:
Лоўка часаў зрубы,
Ставіў хаты,
Як цацкі...

* * *

«Мілы мой... Любы...» —
Трызнілі Мілы, Любы,
Пыталі у кожным шпіталі,
Імёны каханых шапталі
І помнілі іх біяграфіі,
Навек берaглі фатаграфіі...

* * *

Здрада
Была б рада...
Іх вербавалі,
Каб рабавалі,

Каб родных і бліжніх білі,
У лужах крыві тапілі
За хлеба кавалак сабачы...
Здрада шалёна бачыць:
Ад строю
крок
не ступілі.

* * *

«А губы...
Якія губы!
Голас — як песня,
Не грубы...
А жала як лоўка жыта!
Ці захаваўся той сшытак,
Дзе — пра яе усе вершы?..» —
Думае першы...

* * *

«Лепш —
смерць,
Чым волю такую мець —
Сваіх
забіваць умець...»
Немец не можа даўмець.

* * *

«Родны мой край, дарагі...
Сняцца вады кругі...
Капаю у сне калодзеж —
Стромыя берагі...
Вяроўка рыпіць на калодзе...
Кропля вады у поўдзень
Куляю б'е ля нагі...» —
Думае доўга другі...

* * *

Рака. Берагі.
Гані, рука,
На бераг другі
Плыт і снарады...
Фашысты рады,
Фашысты — вясёлыя...
Чакаюць франты...
Ляснуць снарады
На нашыя сёлы,
Гарады і фарты...

* * *

«Ірынка...
Іванка...
Крывінка...
Іскрынка...
Жыцця калыханка...
Бедныя дзеці!

Чым боль загаю?
Выратуй, вецер!
Руку дай, вецце,
Вырві з агню!» —
Думае трэці...

* * *

Па рацэ уніз,
За метраў трыста,
Мост павіс
І калоны выстраіў.
Танкі і цягачы.
Салдаты варожыя...—
Ім смерцю цячы
Па дарогах зняможаных.

* * *

«Бы крык распасцёрты,
Па рацэ уніз,
Не лягу гаротна,
Пабіты, абдзёрты...
Не думала б рота:
«Прапаў беззваротна,
Аддаўся, як здраднік...»
Загіну, як ратнік,
Пакуль я не мёртвы.
Адна мне — дарога...» —
Думаў не доўга
Чацвёрты.

3 Зак. 844

* * *

«Я твой аж да скону, Радзіма.
Ты з маці мяне радзіла,
Пад крыллем сваім расціла,
Адкрыла прасторы дзіўна,
І стала, як маці,
адзінай...
Ці ж я
па табе —
трацілам?»

* * *

«На шчасце —
Падкова
І каліва мяты...
Гукалі з-пад Коўна —
Рабіліся хаты...
Улазіны — танцы,
Смылелі аж пяты...
Прасілі застацца...» —
Думае пяты...

* * *

Уваскрэсла павер'е:
Ад касякоў птушыных
На голле шыпшыны
Падае пер'е...

Бяры —
І вырастуць крылы,
Узмахам
Уздымешся птахам...
Бары
Затулілі б,
закрылі...

* * *

Сіротам,
бацькам гараваць,
Удовам на лёс наракаць...
Ці можна забыць, даравацъ?
Калоны варожай хвост
Выцягнуў некалькі вёрст...
Адрэзаць бы, падарваць
Гэты пракляты мост —
Вену франтоў адарваць!

* * *

Плыт сасновы
Хістае брыз...
Назірк аховы...
Кручы абрыс...
І раптам прыс
Заця́ўся ў руцэ
І рынуў уніз
Плыт па рацэ...

3*

* * *

«Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?
Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?..»

* * *

Жахнуўся бераг:
Як
    і адкуль?
Адлегласць замераў
Чаргой з-за аераў
І —
   бы кінуў нерат
Захлыскамі куль.

* * *

«Куля, куля,
Прашу цябе проста:
Не бі, пакуль я
Плыву да моста.
Там — мая помста.
Успыхне пакулле —
Бі тады, куля!»

* * *

Анямелі пальцы,
А не паліцца
Трут:
Чуць адсырэў.
Тут
Чуцен рэў:
Па шашы між дрэў —
Машыны...
Машыны:
Смерці наборы —
Колер мышыны...
Пнуцца маторы,
Шоргаюць шыны...

* * *

«Вярнуся,
Як толькі вайну мы завершым,
Вазьмуся ізноў за вершы...»
«Вярнуся,
Жывую знайду ваду —
Калодзеж такі узвяду!»
«Вярнуся...
Адзін і другі гадочак —
Будуць дачушка, сыночак...»
«Вярнуся,
Рук і на час не звіну,
Каб зноў не пачаў хто вайну!»

«Вярнуся,
Склют уздыму зухавата —
Як звон, стане хата!»
Вярнуўся б...

* * *

Першы
Крывёю дапісвае вершы...
Другі —
Зніклі ў вадзе кругі...
Трэці
Кулю грудзямі стрэціў...
Чацвёрты — мёртвы...

* * *

Ніхто не успомніў пацеры...
«Хай вораг нас памяне...»
Мост аж застыў, анямеў...
Пяты, скрыгнуўшы мацерна
Нешта пад нос:
«...крышыце ўсё вы ў пух!» —
Трут да пакулля паднёс...
Помстаў і кроўю многіх,
Крокам адным Перамогі —
ВЫБУХ!





# АГОНЬ ЖЫЦЦЯ

*Паэма*

## ЖМЕНЯ ЗЯМЛІ

### I

Дзед,
Учарнелы,
Знямоглы,
Худы,
З паглядам адцвіўшым,
З іржынамі броў,
Злёг,
Надламаўшы галіны-гады,
Як мудрае дрэва
З адвечных бароў.

Век
Упіраўся
Ў затуплены плуг,
Нагамі
Зямлю
Да змяркання круціў...
Прыносіў
Жыцця абяздолены круг
Гаршчок
Перасоленай потам
Куцці.
З пугамі-ліўнямі
Нерадзь брыла...
Спадзевак і мар
Яго сонца
Паў шар...
Гневам
Агонь выкрасаў
З-пад брыва —
Нязбытых паўстанняў
Няўтольны пажар.
Думкі спяліў
Пра акраец зямлі
На захадзе дзён,
На усходзе гадоў...
Мары,
Як мроіва,
Сілай зямлі...—
Аршыны на тры
Заваёваны дол.

## II

Бацька
На межах
Бяду не араў:
Прыкурваў завод
Жарало
Ад зары —
Стачка
Сцякала сцягамі
Ад ран,
Вялікую бітву
Вяшчалі кастры.
Прыстаў
Ад страху
Лісток камячыў:
Лістоўка лячыла
Вачэй слепату.
Ленінскім словам
Кавалі мячы,
Каб
Волі запаленай
След не патух.
Крэпла
Людская рака
Для рыўка,
Сілу адчулі
Галодны,
Галяк,
І рэвалюцыя —

Веку рука —
Зацяла насмерць
Капітал
За гарляк.
Грудзі
Удых
Аблягчэла расцяў,
Разволеных пальцаў
Засмягла сяўня...
З кроўю абводаў,
Як вырваны сцяг,
Крылінай краінай
Юнела зямля.

## III

Порахам
Рвала трывога
Патрон,
І мір,
Як бікфордавы шнур,
Дасіпеў...
Ніцямі куль,
Ланцугамі франтоў
Цягнула вайна
Гарады
Да сябе.
Смерць
Узарала снарадамі
Дол,

На грады магіл
Пасадзіла свінец...
Спеў у разорах
Насмерчаны тол —
Сярпам кананад
Аглушальна звінець.
Поўня у небе
Вачніцай сляпой
Слязіла
Агню смертаноснага
Дым...
Думных алоўкаў
Натруджаны бой
Выкройваў
Гісторыю карт
На гады.
Днеў каляндар
Пахавальным лістом,
Гарчэла сляза
Аўдавела
За люд...
Бацьку
Чарсцвець
Азалелым пластом...
Ды квеціць
Зямля
Пераможны салют.

IV

Сын
На руках Перамогі
Сталеў...
Нядоля
Пужліва
Не стукала ў рань.
Хлебам
Світала Зямля
На стале,
Не слалася неба барвова
Ад ран.
Лес абеліскаў
Граніўся гусцей,
Плугі аднаўлення
Цалілі аблог...
Шчодры ручнік,
Абдарыўшы гасцей,
На памяці рамку
Тужліва аблёг.
Прывід вайны
У крыві не сканаў:
Жалезам іржавым
Плугам назаляў.
Смагаю
Жнівень
Выброджваў з канаў —
Сцякала жніво
Па крутых мазалях.

Поле
Выжыльвала дзеда
Спакон,
Навекі
Прыгорбіла бацьку
Далоў...
Клопат
Вярэдзіць
Сыноўні спакой:
Пульсуе трывожна
Зямля
У далонь.

V

Зрэнкі
Гайдалі
Вандровак гаі...
Аседла
На выездзе
Пошук сяліў —
Сум па радзіме
Ўспаміны гаіў:
Прычасцем
Дымілася
Жменя зямлі.
Кроўю стагоддзяў
Высвечваўся лёс,
У зырківх паўстаннях
Няшчадна палаў...

Час перамолваў
Крышталіны слёз,
Цярпення камені
Крышыў напалам...
Парыла сонца
Займіста
На дзень,
Курэлі
Плацдармаў папары
Між скал...
Кроіў
Схмурнелае неба надзей
Зубастых маланак
Зайздросны аскал.
Прагным ракетам
Прывабны прыман
Пускаў Чалавек
У Сусвету заліў,
Жменяй зямлі
Падуладна трымаў
Прыручаны шар
Ацалелай Зямлі.

## КРОПЛЯ КРЫВІ

*Смерць:*
*— Што яму ў гэтым*
*імгненні жыцця?*
*Куды шчэ імкнуцца,*
*чаго там хацець?*

*Бачыць жа добра,*
*што кожны працяг*
*Рукою халоднаю*
*вытру я,*
*Смерць...*

## I

Зеўрала раніца
Возерам тлым,
Туману
Рассейвала
Плыткую здань...
Прыступам лезла
На берагу схлын
Бароў першародных
Багатая дань.
Брыў Чалавек
Ад зямлі,
З небыцця...
Вачэй недавер
Кожны крок
Аж нацяў,
І за удых
Існавання-жыцця
Нянавісць
Займалася ў сэрцы
Няўцям.
Птушкі
Гублялі

Узоры пярын
На цел чалавечых
Сухія крыжы:
Лютасці,
Сквапы
Шалёны парыў
ДАЎБЕШКАЮ гневу
Галовы крышыў.
Літасць
Не звык выкрасаць
Валадар:
Гушчар
Прадсмяротна у хрыпе
Рыкаў....
Зброі адточанай
Хлёсткі удар
У выдумках
Прагна
Шукала рука.

II

«Што
Ўскаласіла
Нявызнаны гнеў?» —
Пакутліва
Сіліўся розум
Даўмець.
«Помстай
За што

Сіла мускулы гне?» —
Вачам
Павалокаю
Доўга дымець.
Іскры кастра
Патырчак падганяў:
Не цепліўся роздум
За хмурым чалом.
Сны не сышліся
К надрэчным гаям:
Снаваў
Устрывожаны сполах
Чаўном.
Сварку
Не цешыла згода
Нічым —
Нападамі
Прысмерк усклычваў куп'ё.
Крыкі ахвяр,
Як у лёце знічы,
Працягам рукі
Загашала КАП'Ё.
Марна кусціліся
Просьбы замоў:
Патоля абшнырвала
Сховы балот...
У збройнай кладоўцы
Прыроды самой
Вызырвала смерць
Найдалейшы палёт.

4 Зак. 844

## III

Сніўся засеку
Жытнёвы спарыш —
Высмальвала полымя
Зыбанне дрэў.
Нудзіўся вартаю
Каменя крыж,
Быльнёг на усполлі
Нячэпна пятрэў.
Хай бы
Над галам
Радлівай зямлі
Нарог
У задуме пасеву
Пацеў...
Дзікаю злосцю
З адзінай сям'і
Людзей
Раскідаў
Пракаветны падзел.
Вышук
У ЛУК
Ядлаўчыну крывіў —
СТРАЛОЮ тугою
Высвістваў налёт.
Выпульсам
Пырскала
Кропля крыві,
Сцякала жыццём

На аглушаны лёд,
Снежныя замеці.
Месяца серп
Тарпіў
І вірамі
Ў розвадзь
Малоў...
Пальцам учэпістым
Трызніўся сверб:
Здавалася
Сіла забойства
Малой.

IV

Дзевяць
Свінцовых,
Узважаных грам
Патрон улагоджваў
У ствольны равок,
Вока
З прыцэлам
Касіла на грань,
ВІНТОЎКУ сцярог
Прадчувальны рывок.
Выбар суровы
Спагады не меў:
Прастак
Або геній
Гублялі уздых...

Свет ацяжэлы
У зрэнках нямеў,
Пытальнікам
Стан перастрэлены
Стыў.
Сэрца
Не ўтояць
Рабрыны скляпоў,
Калі перамір'е
Раскроіць разлад:
Сіла шалёная
Зброі сляпой
У высцігу дзён
Непазбежна расла.
Цяўся ад страху
Узгорак-гарбун,
Эфір
З прадчування грымот
Выміраў:
Дыбіў узлесак
РАКЕТЫ гарпун,
Паўшар'яў мішэні
Прыцэл вымяраў.

V

Час несупынны
Нішто не пытаў:
Цяпло прабівалася
Прагаї зялін...

Кропляй крыві
Чалавек трапятаў
У вене жыцця
Каля сэрца-Зямлі.
Высніўся зноў
Бумеранга палёт...
Знямела відушча
Ахвяра,
Як страх:
Курнае займішча
Хмурых балот
Кідок выправоджвала
Вокам кастра.
Раптам
Імгненне
Хіснула зварот —
Ляза перакос
Прасвятленне закрыў.
Сіліўся
Вырваць
Раскаянне
Рот,
Ды толькі
Жыццю не схавацца
За крык...
Выстаіць
Дум заспакоеных
Мур?
Зірнуў Чалавек
На Зямлю-палігон:

Зброі усёй
Смертаносны прыжмур
Нацэлены
Проста
У сэрца яго.

## СЛЯЗА ВАДЫ

*В а д а:*
*— Сілай была я,*
*палёгкай дарог...*
*Я —*
*слёзы і кроў,*
*што прайшлі*
*праз пласты.*
*Ты ж,*
*Чалавек,*
*чысціню*
*не збярог,*
*Маю*
*ачарніўшы*
*гарачую стынь.*

### I

Пасвіўся голад
Ля шчодрай вады,
Цягнулася смага
Лядачым жыццём...

Дождж
Наракала павер'е
Святым
У вогненнай кнізе
Засушлівых дзён.
Клопат
Цярпеннем
Прыродзе плаціў,
Каб рупнасць не звала
Адным з недарэк,—
Сонца
Расчоскамі
Стромых плацін
Укладвала косы
Разложыстых рэк.
Волак не здольваў
Камлішчы лясін —
На руме
Рубашкі кідала у пот,
Рэчкі хрыбет
Безадказна насіў —
Крукастымі кранамі
Кланяўся порт.
Розум
Прыроды каня
Асядлаў,
Няўцямна
Рука
Асушэннем
Вядзе...

Сіла зямная
У сконе святла
Бунтоўна віруе
У гнеўнай вадзе.

II

Рыбай
Аглядваў
Свой кожны заліў,
Шліфуючы бег
Ацяжэлым кілям,
Бомбаў пагрозы
Ў затонах саліў,
Збавенне
На сушы
Шукаў акіян.
Бачыў,
Як дні
Без пярэрваў брыдуць,
Выносячы цяжар
На хвалі гарбе...
Коцячы
Нафты
Разлітую ртуць,
Як лёгкія,
Ён
Запаленнем хрыпеў.
Пены крывавай
Цягнуў бараду,

Парваную невадам
Вострых граніц,
Валам дзевятым
Грымеў:
«Паратуй!..» —
Ля ног Чалавека
Раскідваўся ніц.
Ад хвалявання
Падводных магіл
Ён
Сківіцы-рыфы
Балюча сцінаў:
З водмельнай казкі,
З глыбіннай смугі
У боль успамінаў
Сышла
Чысціня.

III

Пяў
Чалавек
Ціхіх рэк
Павады:
Прыроды каня
Зацугляў...
Нукаў сам...
Смагла зяленіва
Сілы вады —
Прагнозна

Вярнуцца дажджам
Наказаў.
Толькі вытокаў
Змялчэлае дно
Сухмені язык
Захлябаста лізаў...
Пудка,
У мроі абложнай,
Даўно
Засніліся
Цяжкія хмары
Лясам.
Крыламі даху
Вятрыскі парыў
Лавіў абнадзеена
Флюгер-бразгун...
Недзе ж
Набухлага неба
Прарыў
Выводзіў на селішчы
Плыні разгул.
Горка
На волю стыхій
Наракаў,
Да мудрых высноў
Валадар не ішоў...
Просіць збавення,
Канае рака
Ад выбаўткаў зліву
І сілы каўшоў.

## IV

Птушкай крылатаю
Рвецца вада,
Каб хлебна
Жытамі
Прастор палавеў.
Быццам
З фантанамі
Кіт завітаў —
Зямля
У заліве Сусвету
Плыве.
Недзе
Спякота
Ваду прадае —
Цана узрастае
Штораз даражэй...
Думаць
Трывога нам права дае:
Заўжды беражоную
Час беражэ.
Сочыцца
Важкая кропля-сляза,
Каб шорсткай пустыні
Засмяглы язык
Раптам
Жніва спадзяванне
Злізаў
І рынуў парыў

На заслоны-лясы.
Неба правал
Ліўні высямі ліў —
Як ад сухмені
Нептун адзічэў...
З кранаў усіх
Неашчаднай Зямлі
Вада
Незваротна
Цячэ...
Уцячэ...

## ГЛЫТОК ЖЫЦЦЯ

*П а в е т р а:*

*— Некалі*
*лекамі,*
*сілай крутой*
*Высвечвала кожны*
*самотны пагляд.*
*Сёння*
*шыпеннем*
*счарнелых ратоў*
*Выдыхваю горка*
*атруту і яд.*

## I

Неба —
Бы купал
Званіцы крутой —
Накрыла
Зямлі
Пералівісты грай.
Месяца звон
З павалокай рудой
Вяроўкаю дыму
Разгойдвае гай.
Што за няшчасце
На свет
Набрыло,
Нябачная хваля
Трывогі
Адкуль?
Можа, ізноў
Перамір'я крыло
Крывёй занялося
Ад роспісаў куль?
Засціць куродым
Блакіт вачанят,
Задышна
Слязіцца туман
Па расе...
Лес перабольшвае
Страх ваўчанят,
Загнаных

Скразною аблогай
Прасек.
Дачнік —
Заначнік прыроды —
Здурэў,
У мроіве дыму
Скрывіў сабе
Рот...
Пальцамі
Чорных,
Скарлючаных дрэў
Шукае ратунак
Сляпы кісларод.

## II

Ног чалавечых
Злянівелы ход
Дарогі хадзьбы
У сябе выкрадаў...
Вуліц галіны
Згрызаюць за год
Машыны —
Жукоў каларадскіх
Арда.
Сэрца
Таблеткі вартуюць
Штодня,
Падушка
Бяссонніцай муляе скронь...

Горад
Карону прысадаў падняў,
Ды газ выядае
Зяленіва крон.
Гоніць
Людскую паспешнасць
У створ
Падземны праход,
Перагрэты ад шын...
Даўка займае
Жыццёвы прастор
Уеднага чаду
Расплывісты джын.
Час імклівее,
Хутчэе жыццё,
Бо хуткасць
Рашае задачы працэй.
Коцячы
Тлумнай пагоні выццё,
Матораў адлік
Непазбежна расце.

III

Неба —
Не фільтр
З белай ватай аблок —
Сусвет
Над лясным неспакоем
Прасцёр...

Тузаюць буры
Зямлі паплавок,
Каб сцішыць пажараў
Адвечны касцёр.
Фабрыкі крыляць
Наміткай рабой,
Заводы прадуць
Бурых нітак
Дымы...—
Попелам чорным —
Бы крыўду і боль —
Цярушаць нябёсы
Праклён
На дамы.
Птушкі
Шукаюць прадыху
Вышэй,
Вяртаючы
Крылператому
Назад...
Сілім напругу
Вачэй і вушэй,
Гадуем
Спадзеў ачышчэння
На сад.
Ды ацяжэлы,
Счаднелы настой
Не стане
Ад горкіх уздыхаў
Радзей...

Звіткамі
Скручаных,
Жоўтых лістоў
З галін
Асыпаецца
Завязь надзей.

## IV

Сёмае неба —
Разгону прасцяг —
Збірае
Касмічныя накіды
Трас.
Хустку усходу —
Раскрылены сцяг —
Разгладжвае
Сонца распалены прас.
Хто ля Зямлі
Чалавека сусед? —
Загадкай планеты
Разлік пераплёў.
Невадам зорным
Цягае Сусвет
Астанкі ракет
І вуглі караблёў.
Туляцца зоры
У вузкі загон,
Знячэўку
Прастрэліўшы знічкаю сон.

5 Зак. 844

Злом Чалавека,
Уладай яго
Падзелена неба
Квадратамі зон.
Рылы ракет
Вызіраюць акно,
Як зубы ўстаўныя
На скальнай дзясне...
Звузіў палёт свой
Каршун-аканом:
Ад птушак жалезных —
У небе цясней.

V

Вырай людскі
З гарадской сумятні
Выкочвае лета
У свята травы.
Дні адпачынку —
Аддышныя дні —
Шукаюць
Чысцейшых вятроў
Астравы.
Смажыць лістоту
Спякотлівы курч,
І пыл
Прызямляе дарога
Няспех —
Вербы з трамплінаў

Падплаўленых круч
Адчайна бяруць у затоны разбег.
Некаму
Сны прадракаюць
Часцей
Аксціцца з трывогай
На гэты злы род:
Бачыцца, быццам,
За просты чысцей,
Па картачках чорных
Даюць кісларод.
Цягнучы к водсвету
Каліва цень,
За шыбаю журыцца
Кволы вазон:
Мроіва дыму,
Хістаючы дзень,
Выядвае ядам
Зрадзелы азон.

## ВЕЧНЫ СУД

*З я м л я:*
*— Хлеб*
*на палях маіх*
*жніўна радзіў,*
*Радовішчам*
*кожны мой спрат*
*быў відзён...*

*Ці ж для таго,*
*каб смяротны трацiл*
*Выпальваў прагалы*
*у памяці дзён?*
*Сохнуць*
*трывожнага лесу*
*вянкі,*
*Зрабіў Чалавек*
*на палях*
*палігон...*
*Болем сваім*
*заклікаю вякі:*
*Сыдзіце,*
*судзіце,*
*спыніце яго!*

I

Кронаю дрэва —
Нябёс мітульга,
Саспелым налівам —
Зямля між галін...
Прожылле рэк,
Быццам ток,
Дзе — тайга,
Сякераю часу
Агонь агаліў.
П'яўкамі смокчуць
Цыстэрны
Нутро —

Рэльеф
Землятрусу
Самохаць крывіць.
Блудзіць засмягла
Вясёлкі вядро
Ля вуснаў парэпаных
Мёртвых крыніц.
Шашаль жалезны
Каўтае пласты,
Ад выбухаў гнецца
Знявечаны ствол...
Цэляць,
Хістаючы дыму хвасты,
Ападкі планет
На заўчаснасці стол.
Каб за нашчадкаў
Працяг не маліў —
Руцэ сцепануцца
І цвёрда рашыць!
Пудка,
Гайдаючы спелы наліў,
Галіна сузор'я
Нядрэмна дрыжыць...

II

Розвадзь Сусвету
Шукае мяжу...
Зямля,
Быццам крыга,

Калыша спадзеў...
Дзень —
Стырнавы —
Скінуў
Снежны кажух:
Мінаючы
Рыфы бяды,
Успацеў.
Войнаў віры
Грукаталі ў бакі,
Хваробы прыліў
Занямогла хістаў...
Лез крыгаломна
На смерці быкі,
Крышыўся вірліва
Сляпы ледастаў.
Сцялася сіла
Удумнай рукі,
Напружанне
Выгнула важка
Вясло —
І гарлавіна
Спрадвечнай ракі
Дыхнула
Зацяжна услед:
«Пранясло!»
Вёў каля меляў
Стрывожаных сноў
І выскачыў раптам
Спалоханы лот:

Нехта
Пяшнёю трацілавай
Зноў
На крызе жыцця
Выпрабоўвае лёд.

## III

Войны
Касцямі
Вымошчвала смерць,
Святло
Вырывала
З-пад цяжкіх павек...
Неба суровага
Зорная медзь
Магільнаю стэлай
Навісла навек.
Лета кусцее
На даўніх касцях.
Прамень
Прадчуванне
Шчымліва працяў...
Хочацца верыць,
Што ты —
Не ў гасцях,
Што ты
На Зямлі —
Пастаянны працяг!
Нечы парыў

Да захопу жадзён —
Гарчаць у вачах
Спачуванні газет.
Памяць няўхільна
За вокнамі дзён
Выспельвае выбух
Жалезных касет.
Плачуць смалою
На соснах цяжы,
Слязіцца гаротна
Вясновы лядзень:
Брацкай магілай
У мёртвай цішы
Не хоча Зямля быць
Для гэтых людзей.

IV

Каб да адуму
Нас высцябнуў
Спуд,
Каб з полымя
Вышугнуць
Іскры надзей,
Вечны,
Штодзённы,
Без літасці
Суд
У зыркіх вачах уяўлення
Ідзе.

Доказы
Чэрняць
З пазіцый любых
У атамных водсветах
Зыркіх грыбоў.
Судзіць
Не бог пакланенняў сляпых,
Прыдуманы верай
Прыгнёту рабоў.
Сведкі
Сышліся
Адзінай сям'ёй,
Зацятыя горам
Заўчасных нягод...
Громнаю хмарай
Павіс над Зямлёй
Не свету канец,
А пачатак яго.
Пільна вычытвае
Справу жыцця
На стыку стагоддзяў
Прысяжны —
Наш век...
Час —
Непадкупны,
Праўдзівы суддзя,
На лаве падсудных —
Сам бог —
Чалавек.



Стаю на папялішчы
Спаконных дум і дзён...
Вясна пралескі лічыць...
І мройна сад відзён...

Забытае качэўе —
Засмяглая Зямля.
Няшчадна рве карчэўе
Ракет крутых сям'я.

Паселішчы дымяцца,
Згасае дзень сляпы...
Паранена дымяцца
Вякоў сівых слупы.

На ўсходзе ці супыне
Прыроднага шытва
Пагасне ці успыхне
Святы агонь жыцця?

Скульптуры і каменне
Надзей людскіх і страт...
Чаго ж ты на імгненне
Ўваскрэсла ля кастра?

Прыйшла, каб паўтарыцца,
Прыйшла, каб час не сцёр?
Каб яркаю іскрыцай
Упасці на касцёр?

Ад мроі адкасніся
І вочы чуць прымруж —
Твой сад далёка ўнізе
Збягае ў кіпень руж.

Сусвет — блакітны жораў —
Кранае свой узор
Галінамі сузор'яў
У шыбінах азёр.

У войнах эвалюцый
Зямлі саспеў ранет...
У спрэчках рукі рвуцца
Да пaverадоў ракет.

У прысаку спрадвечным —
Людзей і дрэў касцё...
Іскрыцай чалавечай
Успыхвае касцёр.





# ЗАЦЬМЕННЕ

*Паэма*

Засланяе цела целам,
Засланяе цела ценем —
Пачынаецца зацьменне...
...Адлівалі кулю недзе,
Адлівалі нечы боль...
Куля рвалася у бой,
Кулю стрымлівалі ледзьве...
Куля вылецець хацела,
Каб закрыць чыёсьці цела...
Залівалі шчэ свінец,
Каб магла ляцець-звінець...
Куля — нечы ты канец,
Куля — нечая ты смерць...
...Адчувала сілу ў жылах...
Як жыцця ўсяго выток,

Сэрца хвіляй даражыла,
Кроў кідаючы ў віток.
Пераносіла пакуты,
Адкрывалася усім,
І, пульсуючы секунды,
Заставалася людскім...
...Скаланула свет вайною...
Час спыніўся ад вайны...
І вайна таму віною,
Што сустрэліся яны.
Куля цэлілася ніжай...
Затаіў дыханне дзень...
Сэрца бліжай,
Бліжай, бліжай...
Іх насустрач лёс вядзе...
Вось
Апошняе імгненне...
Закружылася праменне...
Паімкнуўся ён,
Устаць каб...
Куля —
Бацька
І —
Зацьменне...

* * *

Змалку
З кніжак
Добра помню:

Цмок,
Як смог,
Наплыўшы хіжа,
Выкраў сонца,
Выкраў поўню,
А пасля
Гарластай зеўрай
Зоры выхапіў усе...—
Свет у яміну асеў
І накрыўся зверху
Цемрай...
...Мы
За дні два
Да нядзелі
Растрывожана ляцелі
Не па шэпату прарокаў,—
Па дзіцячаму хаценню.
Мы
Сарваліся з урокаў,
Каб зірнуць
Адным хоць вокам
На нябеснае зацьменне.
У задымленае шкельца —
У маленькае акенца —
Наплывала густа цемень...
З кругам круг
Вось-вось сальецца...
Міг адзін —
І сваім ценем
Засланіў свяціла месяц,

Знікла зыркае цяпельца...
Хмары
Дым кудзельны
Месяць...
Так прыйшло яно —
Зацьменне.
Раптам
Стукнула мне ў цемя,
Аж халодна упацеў я,
Аж мацней
Забіла сэрца:
Што,
Як гэтае зацьменне
Назаўсёды застанецца?
Травы,
Птушкі,
Рэкі,
Людзі...—
З імі
Што
У цемры будзе?
Морак высеяўся,
Схлынуў,
Небасхіл
Прамение лінуў...—
І прайшло яно —
Зацьменне.

* * *

«Хочаш,
Я паваражу,
Што табе наканавана?
Праўду чыстую скажу,
Як умею,
Без падманаў...» —
Я сустрэў цыганку неяк...
Жменя сыпнула капеек —
Што мне
Гэтыя грашы?
Так, скажы,
Што на душы,
Што нясе
Гадоў завея?
У люстэрку —
У блакітненькай талерцы
З залацістаю каймой —
Я убачу,
Што на сэрцы,
Я убачу
Вырыс смерці...—
Лёс
Убачу
Добра мой.
«На душы ў цябе —
Трывога...
Неспакой...
І думак многа...

Ты,
Не верачы у бога,
Моліш
Некага другога,
Каб ад страху
Свет не ахкаў...»
Угадала ты,
Цыганка.
Сніцца мне
Адзін з калек...
Сніцца бацька мне...
Баюся,
І няма
Ніякіх лек...
І у вечар,
І на ранку
Я малюся...
Я малюся
На цябе,
О, чалавек!
«Дом казённы,
Дом высокі
Бачу...
Дальняя дарога
Кліча ў свет цябе далёкі...
Жыць —
Не мала
І не многа:
Сто гадоў
Жыццё раскоціць.

6 Зак. 844

А памрэш ты
Адзінокі...»
Сто гадоў?
Паловы хопіць.
А калі
Лядовы вал
Смерч які-небудзь
Растопіць?
Ён
Зямлю тады
Ахопіць
І змяце ўсё напавал...
Я на міг
Заплюшчыў вейкі —
І туман ахутаў нейкі...
Растварылася праменне...—
То —
Зацьменне,
Не зацьменне?
Вочы я адплюшчыў —
Войкнуў:
У люстэрку,
Як у воку,
Закружыўся раптам век,
Аж паціснуў я
Плячыма...
А цыганка
З-пад павек
Толькі бліснула вачыма:
Углядайся,

Чалавек!
Калі ўбачыць што магчыма...
Паплылі лясы,
Азёры,
Гор магутныя кражы...
Узышлі,
Пагаслі зоры...
І паўсталі,
Як паўстанне,
Абеліскі і крыжы...
«Вы
Жаданне загадалі?» —
Як у сне —
Цыганкі бас...
За якімі
За гадамі —
Не раскрыюць нам паданні —
Смерць скасіла
Першы раз?
Бачу:
Строяцца радамі,
Тут жа
Трояцца ў вачах...
Як?
Адкуль яны жывыя?
Горлы
Пер'ем
Двояць стрэлы,
След у іншых
Ад мяча,

У грудзях другіх —
Прастрэлы...—
Смерць
Даўно над імі вые
І —
Зямля на іх плячах...
«Глянь у вочы мне,
Радзімы...»
Глянуў я
На іх:
Адзіны
Позірк
З вечнаю мальбой,
Ён —
Знаёмы,
Ён —
Не дзіўны...
Вочы словы асвяцілі:
«Нас злажыў
Смяротны бой.
Помні нас
І мы —
З табой!»
У люстэрку
Б'юцца сэрцы.
Тут —
Старыя,
Тут і дзеці...
У люстэрку
На паверцы

Сталі тысячы забітых...
У люстэрку —
Поле смерці,
І з вачэй яго
Не сцерці,
Не сысці яму
З арбіты!

* * *

«Адгадай загадку,
Тата.
Што такое:
Поўна хата,
Поўна хатачка
Людзей,
А — ні вокан,
Ні дзвярэй?» —
Абвіла дачушка шыю...
Хутка думай,
Адкажы ёй...
А мяне —
Як апякло,
Мяне ў дым завалакло,
І язык агню
Ўсё бліжай,
Рукі ліжа,
Вочы ліжа...
Не прарвацца,
Не ўцячы,

І няма
Закрыцца чым...
...Нас,
Нявінных,
Аўтаматы
Прывялі
Да крайняй хаты,
І ў нутро
Піхнулі каты...
Смехам
Шчэрыліся каскі...
Дзеці зналі:
Усе казкі
Маюць
Радасны канец...
Дзед вясковы,
Глухаваты
Гучна выкашлянуў:
«Гады!
Будзе й вам яшчэ
Канец!»
Знікнуў
Неба вакаём...
Ключ закрыў
Дзвярэй праём...—
Іхні
Варварскі прыём
У вяках
Не змог згубіцца...
Атупелыя цвікі

Не хацелі доўга біцца
У растворы аканіцаў,
Ды іх гналі малаткі,
Аж рыпелі касякі,
Аж трашчалі вушакі,
Быццам білі
На вякі...
Самі сталі
Ля адрыны...
І папоўз
Агню язык,
Казытнуў
Сцяны рабрыны,
Аж смалы пачуўся
Сык.
Вышай,
Вышай...—
К бэлькам выйшаў,
Вось ужо
Страху дзярэ,
Завіхаецца увішна...
У курадыме задышным —
Ані вокан,
Ні дзвярэй...
Нехта
Поўнай
Чорнай жменяй
Мне у вочы
Іскры кінуў —
І я гіну...

З імі гіну,
З імі
Курчуся ад болю...
А паветра
Меней,
Меней,
І ўсё болей
Дыму,
Дыму...
Загараецца адзенне —
Пачынаецца зацьменне...
...Абвіла дачушка шыю... —
Як я выйшаў,
Як аджыў я?
«Тата,
Тата,
Ну, скарэй!
Што
Без вокан і дзвярэй?»

* * *

Можа,
Мне здалося
Раптам,
Што лячу я
Касманаўтам?
Што маю ракету
Атам
У галактыку нясе,

Аблачыны,
Быццам вату,
Прабівае крутавата
І туманнасці усе.
Десяць дзён шалёных
Лёту...
Я вяртаюся,
Як з лёду,
Да сваіх
Зялёных ніў...
Мірыяды
Неба множыць,
Неба
Зорамі варожыць,
Быццам шлейфы размялі...
А мяне
Эфір трывожыць:
Не адказваюць з Зямлі.
Я вярнуўся.
Нема горад
Стрэў мяне...
Як быццам гора
Тут спраўляла
Дзікі баль...
Горад стольны
Быццам вымер,
Горад
Быццам нехта вымеў,
Толькі
Хмары чорнай вымя

Сее высозная труба...
Што за кпіны,
Што за жарты?
Нечы стул ляжыць,
Як трон...
І аж сцялася нутро:
Можа,
Атласныя карты
Абышоў
Сляпы нейтрон?
Я — ў ракету,
І планету
Абляцеў за пяць гадзін...
За пяць гадзін...
Стынуць
Гарады пустыя...
Без людзей
Зямля —
Пустыня.
Анікога!
Я —
Адзін!
Шум машын
І жвавы гоман
Слых натужна не калечаць...
Я маўчу...
Я —
Той каменьчык,
Які свет сабой
Падмяў...

Штосьці
Блiснула знаёма:
Пад нагою —
Шкла праменьчык...
Я спынiўся
І падняў.
У люстэрку —
У азерцы —
Праступiў
Муроў абрыс...
І у смутнай кругаверцi
Бег пачаўся,
Бег ад смерцi...—
І ўсё канула унiз...
Мiльганулi
Іскраў рыскi,
А за iмi абелiскi
Паплылi...
Пад iмi —
Kpoў...
Пазнаю знаёмых,
Блiзкiх,
Пазнаю
Сваiх сяброў...
Вунь
Дачушка
За гульнёю
З лялькай лепшаю сваёю
Не паспела зразумець,
Не паспела нават

Крыкнуць,
Як русявенькую грыўку
Дзьмуханула слепа
Смерць...
Як надзей
Упалі крылы...
Што ж вы,
Людзі,
Не скарылі,
Не спынілі
Гэта зло
Асцярогай
Мудрых слоў?
Людзі, людзі...
Як вы
Самі?
Што
Каму вы даказалі? —
Сіла
Стрэцілася з сілай
І жывое ўсё
Скасіла...
Я іду... Усе дарогі
Тут сыходзяцца...
Як цень,
Сціхла плошча Перамогі.
Быццам смерць,
Застыў і дзень.
У агні крывавым,
Вечным —

Нечы
Воблік чалавечы...
Я напружыўся,
Пазнаць каб...
І жахнуўся —
Гэта ж бацька!
Грудзі —
Куляй навылёт,
Вочы —
Полымя ці лёд? —
На мяне
Глядзяць з дакорам...
І высільваецца рот
Нешта выказаць...
Як сорам,
Як нахлынуўшае гора —
На мяне,
Што не збярог,
Што спыніць
У час
Не змог
Чалавечы,
Крэўны род...
«Тата...
Тата...
Вінаваты...»
Воблік нік,
Як з мройнай ваты...
Абеліск
Яго закрыў...

Між дамоў,
Як паміж крыг,
Глухнуў боль мой
І мой крык,
Я,
Як мёртвы ўжо,
Хадзіў:
Я —
Адзін...
Зусім адзін...
Што рабіць
І дзецца дзе мне?
Светла ўсюды,
А —
ЗАЦЬМЕННЕ...



## ЗМЕСТ

**Камароўскі А.**

К 18 Зямля маіх надзей: Вершы і паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 95 с.

ISBN 5-340-00049-4

Комаровский А. Земля моих надежд: Стихи и поэмы.

Паэзія Алеся Камароўскага задушэўная, шчырая, а разам з тым і наступальная. Матывамі барацьбы за лепшую мірную будучыню ўсяго чалавецтва насычаны публіцыстычныя паэмы «Выбух», «Агонь жыцця», «Зацьменне». Лірызм і грамадзянскі пафас тут арганічна спалучаецца ў адно цэлае.

$\frac{4702120200-060}{\text{К М 302(03)}-88}$ 49—88 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

*Комаровский Александр Адамович*

ЗЕМЛЯ МОИХ НАДЕЖД

*Стихи и поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Камароўскі Алесь Адамавіч*

ЗЯМЛЯ МАІХ НАДЗЕЙ

*Вершы і паэмы*

*Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак У. А. Сцепаненка. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар К. А. Крукоўская.*

ІБ № 2824

Здадзена ў набор 12.10.87. Падп. да друку 08.02.88. АТ 09515. Фармат 60×90[1]/[32]. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,0. Ум. фарб.-адб. 4,19. Ул.-выд. арк. 3,46. Тыраж 2100 экз. Зак. 844. Цана 35 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

